ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 89 (1623) | Пятніца, 10 лістапада 1961 года | Цана 4 кап.

# НАПЕРАДЗЕ Ў НАС — УСЕНАРОДНАЕ ШЧАСЦЕ

ТОЛЬКІ азірнуўшыся назад, можна сабе ўявіць, якую ты прайшоў вялікую дарогу. Добрая традыцыя склалася ў нашай краіны: у дні вялікіх святаў, на пэўных гістарычных рубяжах падводзіць вынікі таго, што намі зроблена. Але мы азіраемся не для таго, каб захапляцца тым, што зрабілі, каб склаўшы рукі, прылегчы адпачываць у лагоднай засені сваіх поспехаў. Мы азіраемся для таго, каб вывучаць, аналізаваць, рабіць пэўныя вывады і набіраць разгон для яшчэ больш шпаркай хады ў будучыню.

Год 1961! Кастрычнік! Яны ўвойдуць у вякі, як найярчэйшыя даты, як рубеж, з якога мы выразна ўгледзелі далягляды камуністычнай будучыні. Ленінская партыя на сваім векапомным з'ездзе вызначыла шляхі-дарогі, па якіх наш народ упэўнена пойдзе і ўжо ідзе да самага светлага, самага шчаслівага грамадства.

Праграма, зацверджаная на з'ездзе, акрыляе кожнага савецкага чалавека, яна за кароткі час завалодала думкамі і сэрцамі мільёнаў бо ў ёй запісана тое, за што змагаўся вялікі Ленін у глухую пару самаўладства, за што ў дні Кастрычніка людзі ішлі на барыкады, за што ў гады станаўлення Савецкай улады яны зносілі голад і холад. Сёння мы, прыйшоўшы да вялікага рубяжа, з якога нам выразна відны абсягі камуністычнай явы, не забываем і не маем права забываць тых, хто галодны і напаўраздзеты з вінтоўкай у руках, з сякерай і кельмай клалі падмурак нашых дзён. Многа знёс і перажыў наш народ, але ён ні перад якой нягодай не ўпаў на калені, не схіліў галавы. Ён ведаў: ленінская партыя заўсёды ў авангардзе жыцця, яе дзейнасць, яе клопат — гэта клопат пра свой народ, пра яго сучаснае і будучае. Вось чаму народ ні на хвіліну не адхіснуўся ад сваёй роднай партыі нават у самыя цяжкія часіны гісторыі. Вось чаму савецкія людзі, ахвяруючы самім жыццём, затулялі грудзьмі варожыя доты ў час Айчыннай вайны, перамагалі там, дзе, здавалася, немагчыма перамагчы.

XXII з'езд нашай роднай партыі стаўся тым рубяжом, на якім кожны з нас, азіраючыся на пройдзенае і спасцігаючы ў думках будучыню, мае права заявіць: так, нездарма змагаліся нашы бацькі, нездарма ішлі мы праз нягоды і пакуты.

Партыя сказала: цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме! З душэўным трапятаннем кожны з нас учытваўся і ўчытваецца ў даклады Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, у палымяныя словы камуністычнага маніфеста сучаснасці. Гэта тыя дакументы, якія не змеркнуць з часам. Наадварот, усё больш і глыбей будзе раскрывацца іх сэнс і значэнне, мы будзем чэрпаць з іх творчае натхненне, будзем звяраць з імі свае думкі і імкненні.

Другая палова дваццатага стагоддзя ідзе пад сцягамі камунізма, пад якімі згуртавалася больш адной трэці чалавецтва. Дзе падзеліся тыя пракокі, што прадказвалі нам пагібель?.. Цяпер ніхто не асмеліцца сцвярджаць, што камунізм гэта—утопія. Увесь свет увачавідкі пераканаўся, што дарогі жыцця і прагрэсу кіруюцца іменна ў напрамку камунізма, бо толькі ён, як самы дасканалы, самы прагрэсіўны лад на зямлі, здольны забяспечыць сапраўдную роўнасць, сапраўднае братэрства народаў, бо толькі ён здольны адкрыць поўны прастор для чалавечай творчасці.

Кожны год нашага жыцця — гэта тая прыступка на шляху нашага руху, ступіўшы на якую, мы бліжэй падыходзім да запаветнай мэты. Сорак чацвёртая гадавіна Вялікага Кастрычніка, якую толькі што адсвяткаваў наш народ, з'явілася сапраўднай дэманстрацыяй нечуваных поспехаў камуністычнага будаўніцтва. Новая Праграма Камуністычнай партыі, рашэнні з'езда азарылі шляхі ў блізкую будучыню камунізма. На лозунгах і транспарантах дэманстрантаў можна было прачытаць рапарты вялікіх перамог камуністычнай працы. Сотні брыгад і цэхаў, цэлыя прадпрыемствы сталі калектывамі камуністычнай працы. А заўтра іх будзе яшчэ больш. Гэта значыць, што праца ў нашай краіне становіцца першай патрэбай чалавека, што яна пераходзіць у творчасць. А такая праца не можа быць не прадукцыйнай, не натхнёнай.

Чытаючы і вывучаючы гістарычныя дакументы, прынятыя на XXII з'ездзе, асэнсоўваючы і ўдумваючыся ў кожнае слова, у кожную лічбу, усведамляеш і значэнне сваёй сціплай працы на карысць грамадства. Нам, пісьменнікам і работнікам мастацтва, трэба зрабіць вельмі многа. Мы, як падручныя партыі, павінны памагчы ёй у даволі складанай і нялёгкай рабоце па камуністычнаму выхаванню працоўных, бо выхаванне новага чалавека — гэта найважнейшае пытанне нашай будучыні. Нядзіва, што яму так многа аддадзена ўвагі ў Праграме партыі і ў рашэннях XXII з'езда.

З'езд у сваіх рашэннях запісаў: «Развіваць літаратуру і мастацтва сацыялістычнага рэалізму, узнімаць іх ідэйны і мастацкі ўзровень, умацоўваць сувязь з практыкай камуністычнага будаўніцтва, з жыццём народа». Партыя патрабуе ад нас, работнікаў літаратуры і мастацтва, высокага майстэрства, глыбокага пранікнення ў жыццё, кліча нас не толькі ісці ў нагу з жыццём, але і апярэджваць свой час, каб глыбока паказаць сучасніка не толькі такім, як ён ёсць, але і такім, якім ён павінен быць заўтра. Для гэтага неабходна, каб вока мастака магло бачыць не адны тыя працэсы, што адбываюцца сёння, а і тыя, што схаваны заслонай часу. Позірк мастака павінен быць вострым, дапытлівым, прадбачлівым. Партыя і народ чакаюць ад нас кніг, поўных праўды, шчырасці, кніг, якія б клікалі наперад, усялялі б веру ў вялікую будучыню нашага народа, прапагандавалі б у глыбока мастацкай форме вялікія мэты і задачы, пастаўленыя ленінскай партыяй. Мы павінны заўважаць і паказваць парасткі новых камуністычных адносін у працы і ў быце людзей, узнімаць іх на шчыт, выхоўваць на лепшых узорах чалавека новай камуністычнай маралі.

Апалагеты капіталізму, яго ідэалогі і барды цяпер не асмельваюцца ўжо называць нашы планы і прадвызначэнні фантастычнымі. Яны пагаджаюцца з тым, што на працягу дваццацігоддзя Савецкая краіна выйдзе на той узровень жыцця, які прадугледжвае Праграма партыі. Але ў той жа час яны крычаць, што, маўляў, у Савецкім Саюзе будзе ўсё, апроч... свабоды. Пра якую свабоду клапоцяцца прыхвасні імперыялізму? Відаць, пра свабоду эксплуатаваць другіх, выціскаць з іх пот і кроў для таго, каб у таўстасумаў аж трашчалі ад капіталу сейфы ў банках. Так, такой «свабоды» ў нас ніколі і ні для каго не будзе. Свабода працы, свабода творчасці, свабода чалавечых адносін, свабода дзяржання ў імя народа і для народа — вось што мы разумеем пад словам «свабода».

Партыя вызначыла вялікія задачы па будаўніцтву камунізма ў нашай краіне, заклікала народ да руплівай працы, да творчых здзяйсненняў. Ужо сёння мы ўвачавідкі бачым, як у нашым жыцці прабіваюцца да сонца нічым неадольныя парасткі камунізма, і мы, работнікі літаратуры, як дбайныя садоўнікі, павінны вырошчваць гэтыя парасткі, даглядаць іх. Народ ад нас патрабуе новых і новых твораў пра нашага сучасніка, пра таго чалавека, які сваімі рукамі, сваім розумам пракладвае дарогі будучыні.

Мінск. 7 лістапада



Калышацца мора сцягаў барвовых,
Краіна ідзе ў камунізма паход.
Леніна вобраз, Леніна слова
У сэрцах нясе беларускі народ.

# ПАД ВЯЛІКІМ СЦЯГАМ КАМУНІЗМА

## ПАРАД І ДЭМАНСТРАЦЫЯ ПРАЦОЎНЫХ У МАСКВЕ НА КРАСНАЙ ПЛОШЧЫ.

Ад адной гадавіны Вялікага Кастрычніка да другой — гэтым адрэзкам часу людзі Краіны Саветаў вымяраюць свой пераможны поступ на шляху да запаветнай высокай мэты. Сёння яны святкуюць сорак чацвёртую гадавіну з найвялікшым уздымам усіх духоўных сіл.

Красная плошча! Яна дорага сэрцу кожнага. Тут бываў Ільіч, на гэтай плошчы гучалі яго палымяныя прамовы, тут стаіць Маўзалей Уладзіміра Ільіча Леніна, па запаветах якога жыве наша краіна.

...Яшчэ не рассеяўся на святочнай плошчы дымок асенняй раніцы, а яе гранітныя трыбуны ўжо запоўнены. Тут — відныя партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, работнікі навукі і культуры, рабочыя і калгаснікі. Сярод іх — дэлегаты XXII з'езда КПСС. Тут жа зарубежныя госці з многіх краін свету. Прысутнічаюць члены дыпламатычнага корпуса, вышэйшы камандны склад Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, ваенныя аташэ пасольстваў.

Прысутныя на Краснай плошчы цёпла вітаюць з'яўленне на цэнтральнай трыбуне Маўзалея таварышаў Л. І. Брэжнева, Г. І. Воранава, Ф. Р. Казлова, А. М. Касыгіна, О. В. Куусінена, А. І. Мікаяна, Д. С. Палянскага, М. А. Суслава, М. С. Хрушчова, М. М. Шверніка, В. В. Грышына, П. Н. Дзёмічава, Л. Ф. Ільічова, Б. М. Панамарова, А. М. Шалепіна.

На правым крыле Маўзалея — выдатныя военачальнікі, маршалы Савецкага Саюза і маршалы родаў войск, адміралы і генералы.

Куранты Крамля б'юць дзесяць разоў. З варот Спаскай вежы ў адкрытай сталёвага колеру машыне выязджае міністр абароны СССР Маршал Савецкага Саюза Р. Я. Маліноўскі. Перад Маўзалеем яго сустракае на аўтамабілі камандуючы парадам генерал арміі Н. І. Крылоў і рапартуе аб гатоўнасці войск Маскоўскага гарнізона да параду.

Рапарт прынят. Маршал Савецкага Саюза Р. Я. Маліноўскі аб'язджае воінскія часці і віншуе іх з 44-й гадавінай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Затым тав. Маліноўскі падымаецца на трыбуну Маўзалея і гаворыць прамову.

Гучыць Дзяржаўны гімн Савецкага Саюза. Грымяць залпы артылерыйскага салюта. Падаецца каманда да пачатку ўрачыстага маршу. Рушыла па плошчы рота выхаванцаў Маскоўскай ваенна-музычнай школы, якая адкрывае парад.

З разгорнутымі сцягамі, выдатным страявым крокам перад трыбунамі праходзяць слухачы і выкладчыкі ваенных акадэмій. Залунаў бела-блакітны ваенна-марскі сцяг. Паліліся хвалюючыя гукі «Варага» Гэта набліжаюцца курсанты Вышэйшага ваенна-марскога вучылішча імя П. С. Нахімава.

Гулам матораў і ляскатам гусеніц бронетранспарцёраў напаўняецца плошча. На маршы — бывалая, выпрабаваная ў гарачых баях з нямецка-фашысцкімі войскамі гвардзейская Таманская мотастралковая дывізія імя М. І. Калініна.

... Чуваць нарастаючы гул. Цяжкім грукочачым поступам, абгінаючы з двух бакоў будынак Гістарычнага музея, упаўзае на плошчу магутная браніраваная тэхніка — новыя танкі. Гэтыя баявыя машыны, якія ўпершыню ўдзельнічаюць на святочным парадзе, не ведаюць перашкод ні на сушы, ні на вадзе.

На плошчы — авеяная славай савецкая артылерыя. Замыкаюць калону звышмагутныя гарматы велізарнага калібра. Яны здольны ўзломваць любыя абарончыя збудаванні ворага і забяспечваць бесперашкодны рух пяхоты і танкаў.

Што ж прыцягнула цяпер такую пільную ўвагу трыбун? Які від войск паявіўся на Краснай плошчы? Гэта ракетныя войскі, якія складаюць самую ўнушальную сілу Савецкай Арміі.

Праходзяць рэактыўныя сістэмы, зманціраваныя на самаходных аўтамабільных установках. Яны незвычайна магутныя разбуральнай сілай сваіх залпаў і высокай дакладнасцю стральбы.

І, нарэшце, ракетныя войскі стратэгічнага прызначэння!

Гэты новы від узброеных сіл нашай краіны служыць яшчэ адным красамоўным сведчаннем бурнага развіцця навукі і тэхнікі нашай сацыялістычнай дзяржавы.

Парад закончан. Прадэманстравана магутнасць велізарнай уражальнай сілы. Савецкая Армія і Ваенна-Марскі Флот надзейна ахоўваюць натхнёную працу вялікага Савецкага народа, зодчага камунізма, нястомнага барацьбіта за мір ва ўсім свеце.

Пачынаецца дэманстрацыя прадстаўнікоў працоўных Масквы.

Кумачовыя сполахі ў праездзе Гістарычнага музея, і мора ўсенароднай урачыстасці велічна разлілося па Краснай плошчы. Наперадзе галаўной калоны — палотнішчы з партрэтамі Маркса, Энгельса, Леніна, чый геній дапамог знайсці і выверыць наш шлях у светлае заўтра. Трохі воддаль на машынах плывуць велізарныя лічбы «XXII». Гэта сімвал партыйнага з'езда, які азарае сваім святлом цяперашняе свята Кастрычніка. З краю ў край плошчы—пано са словамі, якія з асаблівай гордасцю абвяшчаюць сёння савецкія людзі: «Партыя — наша сіла. Партыя—наша слава. Партыя—наш гонар».

Як велічны запеў да гімна міру і працы льецца галаўная калона. На вялікіх сцягах этапы слаўнага шляху—гады, адзначаныя праграмамі Камуністычнай партыі.

Подыхам маладосці павеяла са старажытнай плошчы, калі яна ўпрыгожылася яркімі радамі спартсменаў. Некалькі чоткіх мазаічных перастраенняў — рады спартсменаў з чырвонымі вымпеламі заміраюць на імгненне, утвараючы слова «ЛЕНІН».

Шарэнгі фізкультурнікаў нібы загараюцца тысячамі зорак. Над імі зарыва бенгальскіх агнёў. Чарада дзяцей, як астравок кветак, аддзяляецца ад спартсменаў. Дзеці накіроўваюцца да Маўзалея з букетамі ў руках. Усхваляваныя, падбягаюць яны да трыбун, падымаюцца наверх, падносяць кветкі кіраўнікам партыі і ўрада. Гэта — ад усёй савецкай шчаслівай дзетвары.

Адразу дзевяць калон-патокаў усенароднага шэсця ўліваюцца на Красную плошчу. Наперадзе зводны атрад сцяганосцаў.

Праменні ўзыходзячага сонца, і на іх фоне вялікая раскрытая кніга—Праграма КПСС, якую людзі назвалі камуністычным маніфестам нашай эпохі. Яе сімвалічны малюнак над кожнай калонай, яе святло ў кожным сэрцы. Углядаючыся ў лічбы грандыёзных планаў, вы быццам яшчэ раз перачытваеце найвялікшы дакумент стагоддзя.

Прыцягальную сілу ва ўсім свеце набылі намечаныя савецкімі людзьмі рубяжы будучых здзяйсненняў. Яны палымнеюць над калонамі гордымі словамі: «Самы кароткі ў свеце рабочы дзень!», «Кожнай сям'і добраўпарадкаваную кватэру!». «Рэальныя даходы савецкіх людзей узрастуць у 3,5 раза».

Ідзе працоўная гвардыя — калектыў праслаўленага завода «Дынама». У такі ж дзень светлага свята 7 лістапада 1921 года да дынамаўцаў прыехаў Ільіч, каб пагаварыць з рабочымі, параіцца, як лепш рухаць электрыфікацыю. На ўсё жыццё запалі тады словы правадыра ў сэрцах тых, хто чуў яго. А такіх шчаслівых і дагэтуль нямала на заводзе. Сёння яны ў кастрычніцкіх калонах.

Нас у сталіцы 300 тысяч — рапартуюць мантажнікі, кранаўшчыкі, рабочыя домабудаўнічых камбінатаў. Які горад свету можа назваць такую лічбу! 120 тысяч кватэр для масквічоў у гэтым годзе— такі адказ будаўнікоў на заклік партыі: «Усё ў імя чалавека, для шчасця чалавека».

Велізарны разлівачны коўш нібы толькі што выйшаў з цэхаў завода «Серп і молат». На ім — лаканічны расказ аб падарунку 44-му Кастрычніку — аб тысячах тон металу звыш плана. А вось гаспадары завода, які ідзе цяпер наперадзе многіх станкабудаўнічых прадпрыемстваў Амерыкі і Еўропы — чырвонапралетарцы. Іх важкі рапарт Кастрычніку — дзесяткі станкоў звыш плана і сярод іх — самы папулярны ў свеце станок «1К-62».

Багацце прадуктаў для народа — такая недалёкая будучыня. У руках дэманстрантаў малюнак залацістых пачаткаў, каласоў пшаніцы. У будучае дваццацігоддзе краіна давядзе вытворчасць збожжа да 18—19 мільярдаў пудоў і мяса — да 30—32 мільёнаў тон. І гэта будзе зроблена! Парукай таму рашучасць нашай партыі і ўсяго народа, народа—асілка.

Сёння шляхі да сэрца Масквы— Краснай плошчы вядуць праз Праспект Маркса. І кожны бачыць у гэтым выразную прыкмету селетнега Кастрычніка. Партыя ўрачыста абвясціла: «Цяперашнее пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме». У гэтых словах Праграмы КПСС — жывы Маркс, жывы Ленін.

Далёка відаць транспарант, які нясуць вучоныя. На ім напісана: «Пакарэнне космасу — трыумф савецкага чалавека, яго энергіі, волі, розуму». Але не толькі трыумфальнымі палётамі ў космас ганарацца нашы вучоныя, інжынеры, тэхнікі. Прызнанне ўсяго свету атрымалі дасягненні савецкіх фізікаў, якія адкрылі новыя магчымасці мірнага выкарыстання ядзернай энергіі, біёлагаў і хімікаў, якія вядуць нястомную барацьбу за здароў'е і даўгалецце чалавека, за высокую ўраджайнасць палёў.

«Партыі — Слава», «Праграму выканаем!»... Кастрычніцкі вецер нясе гэтыя, ідучыя ад сэрца, словы да Маўзалея. Ад гранітных яго трыбун ляцяць насустрач здравіца: «Савецкаму народу Слава!» здаецца, ад авацый ускалыхнулася мора сцягоў і ўзнятыя ўверх рукі дэманстрантаў зліліся ў моцным поціску рук. Камунізм будзе! — упэўнена гавораць савецкія людзі.

«Мір» і «Камунізм». Гэтыя словы ўжо сталі сінонімамі ў слоўніку гісторыі. І планета, настроеная сёння на хвалю Краснай плошчы, прымае натхнёны заклік камуністаў: «Мір народам!».

«Народы ўсіх краін! Вы — рашаючая сіла ў барацьбе за мір! Будзьце пільныя, выкрывайце імперыялістычных падпальшчыкаў вайны — ворагаў чалавецтва! Змагайцеся за ўсеагульнае і поўнае раззбраенне!» Гэты заклік ЦК КПСС шматразова паўтараецца над святочнымі калонамі дэманстрантаў.

Як не ганарыцца сяброўскім яднаннем флагоў сацыялістычных краін, што праплываюць па Краснай плошчы. Так, у гэты дзень народы краін сацыялістычнага лагера асабліва адчуваюць локаць адзін аднаго. Савецкія людзі ў гэты святочны дзень перадаюць гарачае прывітанне сваім братам — працоўным сацыялістычных краін.

Сёння з сэрца нашай краіны нясецца палымянае прывітанне народам, якія парвалі ланцугі каланіялізму і змагаюцца за свабоду. Савецкія людзі горача вітаюць гераічны народ Кубы, які будуе новае жыццё.

Калі дэманстрацыя падыходзіла ўжо к канцу, на трыбуну Маўзалея падняліся кубінскія піянеры. М. С. Хрушчоў па-бацькоўску сустракае дзяцей. Масквічы пазналі іх па форменных берэтах. Многа цёплых слоў і сяброўскіх прывітанняў атрымалі ў гэты дзень юныя кубінцы.

Велічная і ўрачыстая карціна ўсенароднага свята. Тысячы транспарантаў, пано, сцягоў увабралі ў сябе ўсю радугу колераў, тысячы сэрцаў б'юцца як адно—жывое ўвасабленне адзінства партыі і народа.

Як прыгожа ўсё навокал,
Хоць і восень хмурыцца.
Аж, здаецца, пайшла ў скокі
Разам з імі вуліца.

# Парад і дэманстрацыя працоўных у Мінску

Якая прыгожая сталіца Беларусі ў святочным убранні! Строгія пано Цэнтральнай плошчы расказваюць аб гіганцкім шляху, пройдзеным партыяй і народам за 44 гады, і над усім — асяняючы чалавецтву шлях да камунізма— вобраз Леніна, чый светлы геній, чыё імя будзе жыць вечна.

Усё гатова да парада. На трыбунах — члены Цэнтральнага Камітэта КПБ, дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР, героі Савецкага Саюза і героі сацыялістычнай працы, наватары прамысловых прадпрыемстваў і будоўляў, дзеячы навукі, літаратуры і мастацтва, афіцэры і генералы Савецкай Арміі.

На цэнтральную трыбуну падымаюцца кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі К. Т. Мазураў, старшыня Савета міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, старшыня прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлоў, сакратары ЦК КПБ Ф. А. Сурганаў, П. М. Машэраў, В. Ф. Шаура, Д. Ф. Філімонаў, намеснікі старшыні Савета Міністраў БССР І. Ф. Клімаў, А. І. Золаў, старшыня Рэспубліканскага савета прафсаюзаў І. М. Макараў, першы сакратар Мінскага абкома КПБ С. О. Прытыцкі, загадчык аддзела партыйных органаў ЦК КПБ С. А. Пілатовіч, першы сакратар ЦК ЛКСМБ Л. Г. Максімаў.

На плошчу выязджае на адкрытым аўтамабілі камандуючы войскамі Беларускай ваеннай акругі генерал арміі В. А. Пянькоўскі. Ён прымае рапарт камандуючага парадам генерал-палкоўніка А. С. Бурдзейнага. Пачынаецца аб'езд войск. Камандуючы віншуе воінаў са святам. У адказ чуецца тысячагалосае салдацкае «Ура». В. А. Пянькоўскі падымаецца на трыбуну і гаворыць прамову.

Ад імя і па даручэнню Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі і Савета Міністраў БССР ён вітае і віншуе салдат, сержантаў, афіцэраў і генералаў, працоўных Беларусі з 44-й гадавінай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Гэтую слаўную гадавіну, гаворыць тав. Пянькоўскі, савецкі народ адзначае ў абстаноўцы небывалага палітычнага і працоўнага ўздыму, выкліканага рашэннямі XXII з'езда КПСС. Да свайго гістарычнага з'езда наша партыя прыйшла як ніколі згуртаванай і маналітнай, яна яшчэ больш зрадніласся з усім савецкім народам.

XXII з'езд партыі, адзначае прамоўца, аднадушна зацвердзіў новую Праграму КПСС. Савецкія людзі непахісна ўпэўнены ў тым, што яна будзе поўнасцю ажыццёўлена і ў нашай краіне ў найкарацейшы гістарычны тэрмін будзе пабудавана самае прагрэсіўнае, самае справядлівае ў гісторыі чалавецтва камуністычнае грамадства.

Улічваючы сучасную напружаную міжнародную абстаноўку, гаворыць прамоўца, усе савецкія людзі павінны праяўляць пастаянную палітычную пільнасць і беззапаветна працаваць для далейшага ўмацавання эканамічнай і абароннай магутнасці нашай любімай Радзімы.

Генерал заканчвае сваю прамову здравіцай у гонар 44-й гадавіны Вялікага Кастрычніка, гераічнага савецкага народа, Савецкіх Узброеных Сіл, у гонар слаўнай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

... Парад адкрывае зводная афіцэрская калона. Ідуць тыя, каму партыя і народ даверылі выхаванне воінаў. Афіцэрскі корпус Савецкіх Узброеных Сіл — гэта адборны атрад верных сыноў савецкага народа, палітычна сталых, высокападрыхтаваных у ваенна-палітычных і тэхнічных адносінах, бязмежна адданых справе партыі і здольных у любы момант выканаць свой абавязак па абароне любімай Радзімы.

Ідуць гвардзейцы-пехацінцы. У пярэдадзень з'езда яны рапартавалі аб выкананні сацыялістычных абавязацельстваў, аб поспехах у баявой і палітычнай падрыхтоўцы, Па плошчы праходзяць танкісты, артылерысты, сувораўцы. Рухаюцца бронетранспарцёры, артылерыя розных калібраў.

Закончан парад войск. Позіркі прысутных на Цэнтральнай плошчы звернуты ў бок Ленінскага праспекта, адкуль ідуць першыя рады дэманстрантаў. У галаве калоны чырвоны сцяг. За ім дэманстранты нясуць вялікія партрэты Карла Маркса і Уладзіміра Ільіча Леніна, кіраўнікоў Камуністычнай партыі і савецкага ўрада.

Пад засенню флагоў праходзяць тыя, хто ў першыя гады Савецкай улады са зброяй у руках адстайваў заваёвы Вялікага Кастрычніка, хто насмерць стаяў у Вялікай Айчыннай вайне, хто цяпер нястомна працуе над выкананнем грандыёзных планаў сямігодкі. Ідуць калектывы прамысловых прадпрыемстваў, транспарту і будоўляў.

У святочнае ўбранне калон мінскіх трактарабудаўнікоў гарманічна ўпісаны рапарты працоўных перамог у гонар слаўнага з'езда роднай Камуністычнай партыі.

Калектыў трактарнага завода паслядоўна паляпшае якасць сваёй прадукцыі. Ён вырашыў дадаткова да сямігадовага задання выпусціць 73.500 трактараў «Беларусь», а тэрмін вырабу кожнай машыны скараціць удвая.

Усё новыя і новыя калектывы праходзяць па Цэнтральнай плошчы.

Слаўнымі працоўнымі справамі сустрэў светлае свята Вялікага Кастрычніка калектыў Мінскага аўтамабільнага завода. Паводле вынікаў спаборніцтва сярод прадпрыемстваў Мінска ў трэцім квартале ён выйшаў на першае месца. У дзень адкрыцця XXII з'езда КПСС на заводзе выраблен доследны ўзор новага грузавога аўтамабіля павышанай праходнасці «МАЗ-505».

Вецер развявае шаўковыя сцягі. На лозунгах, плакатах і транспарантах паказаны велічныя перспектывы развіцця нашай краіны, яе цудоўная будучыня. У радах дэманстрантаў ідуць ударнікі камуністычнай працы. За апошні час колькасць іх памножылася. Да дня адкрыцця XXII з'езда КПСС аўтазаводцы вырабілі прадукцыі звыш устаноўленага плана на мільёны рублёў. У першых радах спаборнічаючых за датэрміновае выкананне вытворчага плана ідуць камуністы.

Аб сваіх дасягненнях у гонар 44-й гадавіны Вялікага Кастрычніка рапартуюць чыгуначнікі, калектывы падшыпнікавага завода, радыёзавода, завода «Ударнік», абутковых фабрык, тонкасуконнага камбіната, камбіната будматэрыялаў, завода запасных частак, будаўнічых трэстаў, электратэхнічнага завода і іншых прадпрыемстваў.

Колькі ў калонах студэнтаў — вясёлай, жыццярадаснай моладзі. На аншлагах раз-пораз мяняюцца назвы тэхнікумаў і ВНУ. Беларускі дзяржаўны універсітэт, палітэхнічны, тэхналагічны, медыцынскі, педагагічны інстытуты, дзяржаўная кансерваторыя, інстытут фізкультуры, народнай гаспадаркі... гэта даўно ўжо стала такім прывычным.

Міма трыбуны праходзіць калона Акадэміі навук БССР—галаўны атрад вучоных рэспублікі. Для міру і шчасця працуюць яны. І галоўнае ў дзейнасці вучоных — дапамагчы работнікам прамысловасці, працаўнікам сельскай гаспадаркі ажыццявіць вялікія ідэі партыі. Вялікія перспектывы ў нашых вучоных, светлая дарога ўперадзе.

Як марскі прыбой, шуміць людскі паток. У шматлікіх калонах, што рухаюцца па Цэнтральнай плошчы, побач ідуць творцы матэрыяльных даброт і стваральнікі духоўных каштоўнасцей. Услед за калектывамі прамысловых прадпрыемстваў праходзяць пісьменнікі і артысты, мастакі і кампазітары.

Святочнае шэсце працоўных Мінска вылілася ў дэманстрацыю адзінства і згуртаванасці беларускага народа вакол Камуністычнай партыі і савецкага ўрада, яго вернасці роднай Камуністычнай партыі, гатоўнасці з гонарам выканаць гістарычныя рашэнні XXII з'езда КПСС.

# БУДУЧЫНЯ І ТЫ

Як усё-такі хутка і лёгка прызвычайваецца наш чалавек да цудаў! Спадарожнікі Зямлі... Касмічныя караблі... Нарэшце — касманаўты! Сёння ніхто з нас не сумняваецца, што недзе ў запаветным месцы дзесяткі вучоных рыхтуюць да палёту на Месяц Касманаўта — тры. (Чамусьці многія з нас думаюць, што Касманаўт—тры будзе трымаць курс іменна туды). Але гэта не дзівіць нас: так яно і павінна быць, да гэтага ідзём...

Мы ўжо думалі, што нашага сучасніка нічым нельга здзівіць, узрушыць. І раптам выбухнула такая бура радаснага ўсеагульнага захаплення, нібы ў кожным сэрцы загайдаўся велізарны акіян. Няўжо ўсяго толькі праз дваццаць год надыдзе камунізм?!.. Калі гаварыць шчыра, то сёй-той сумняваецца: няўжо, каб дасягнуць гэтага, спатрэбіцца толькі дваццаць год?

Ды што таіць! Усе мы неяк прывучылі сябе думаць, што яшчэ толькі закладваем падмурак, толькі ўзводзім будынак, а жыць у ім давядзецца наступным пакаленням, нашым унукам і праўнукам. І вось нам рашуча і цвёрда заявілі, што не толькі нашы ўнукі і дзеці — мы самі будзем жыць пры камунізме! Прычым абвясціў гэта вялікі форум — з'езд камуністаў! А мы ўжо ведаем, што слова партыі — цвёрдае слова. Калі яна сказала, значыць, так і будзе.

І людзі радуюцца. Велічная Праграма камунізма, прынятая XXII з'ездам партыі, не пакінула абыякавым ніводнага чалавека, калі, можа, не лічыць самых закаранелых абывацеляў. Хоць і яны па-свойму таксама радуюцца набліжэнню камунізма. «Во калі жытуха будзе! Гэта ж падумаць толькі: атрымлівай па патрэбах, пі, еш, хоць распяражыся. Ды мы ў такім разе першыя за камунізм!»

Мы вельмі мала задумваемся над тым, што, акрамя таго, што «краіна, народ будуе камунізм», як мы прывыклі думаць, гаварыць, пісаць, яшчэ і кожны з нас, калі можна так сказаць, у «індывідуальным парадку» будуе камунізм. Кожны з нас — рабочы ён ці даярка, пісьменнік ці дворнік працуе на камунізм.

Мы часта думаем, што камунізм — гэта толькі Волжская ГЭС, кібернетычныя машыны, цудадзейныя заводы-аўтаматы і мала думаем пра тое, што камунізм — гэта таксама **і звышпланавы літр малака і новая «звышпланавая» кніга пісьменніка, і некалькі малюсенькіх вінцікаў, зробленых токарам звыш свайго зменнага задання.**

Здавалася б, ну што такое адзін лішні вінцік? Дробязь, кропля ў моры! Хіба можа ён мець нейкі ўплыў на камунізм? Аказваецца, можа. Адзін рабочы зробіць вінцік, другі — шасцяронку, трэці — якую-небудзь іншую дэталь, а зрэшты з усіх гэтых «вінцікаў» можна сабраць сотні трактараў, аўтамабіляў, станкоў, непрадугледжаных у плане! Сотня лішніх трактараў — гэта ўжо тысячы пудоў збожжа, мяса, малака звыш плана. «Лішнія вінцікі» — гэта высокая прадукцыйнасць працы, у прамой залежнасці ад якой знаходзіцца матэрыяльна-тэхнічная база камуністычнага грамадства, галоўны прынцып якога: ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па патрэбнасцях. Каб хутчэй перайсці да гэтага прынцыпу, неабходна перш за ўсё ажыццявіць, рэалізаваць першую палавіну гэтага лозунга: ад кожнага па яго здольнасцях, у меру яго магчымасцей, таленту.

Іншымі словамі, кожны з нас павінен працаваць так, каб сёння прынесці ў агульнанародную справу адзін «вінцік» звыш нормы, заўтра — два, паслязаўтра — тры і г. д. Толькі ў такім разе мы створым матэрыяльнае багацце, неабходнае для камуністычнага грамадства. Трэба і сэрцам і душою зразумець, што ад кожнага з нас залежыць надыход камунізма. Кожнаму з нас, — дзе б ён ні працаваў, якую б пасаду ні займаў, — неабходна ўсвядоміць, што **камунізм не толькі наша агульная справа, але і глыбока асабістая, адчуць персанальную адказнасць за камунізм!** «Для пабудовы камунізма, — гаварыў Мікіта Сяргеевіч у сваім справаздачным дакладзе на XXII з'ездзе, — патрабуюцца вялікія працоўныя намаганні народа, літаральна кожнага савецкага чалавека... Жыццёвыя даброты не зваляцца да нас, як манна з неба. Кожны працаўнік павінен добра разумець гэта і ўносіць свой уклад ва ўсенародную справу будаўніцтва камунізма».

Нам яшчэ вельмі многа трэба клапаціцца аб тым, каб наша звычайная, штодзённая праца стала святам душы для кожнага чалавека, найпершай жыццёвай неабходнасцю, крыніцай натхнення, асалоды, радасці, каб ён ішоў на работу кожны дзень з такім настроем, з такім уздымам, з якім мы ідзём на першамайскую ці кастрычніцкую дэманстрацыю. Мы павінны выхаваць у сябе няўтольную прагу да працы.

І не толькі гэта!. Адной з самых галоўных нашых задач з'яўляецца задача выхавання ў кожнага чалавека глыбокага пачуцця гаспадара, пачуцця кроўнай, асабістай зацікаўленасці ва ўсім, што адбываецца вакол яго, на яго заводзе ці ў калгасе, у яго роднай вёсцы ці ў горадзе. Некаторым з нас, здаецца, нестае іменна гэтага пачуцця... Усе мы, без выключэння, шчыра, бурна захапляемся героямі працы — Віташкевічам, Алексіевічам, Прусавай, Асіюк, ганарымся іх поспехамі, як сваімі ўласнымі, радуемся за іх.

А вось скажыце, ці заўсёды мы так бурна і шчыра выказваем свае адносіны, калі бачым, што нейкі недарэка завальвае план, б'е лынды, працуе, як кажуць, абы з рук? Вядома, гэта нам непрыемна, мы адмоўна рэагуем на такі факт, але ці заўсёды мы ўспрымаем яго як **наша асабістае няшчасце, як асабістую бяду?** Не, не заўсёды. Нас як быццам гэта мала датычыць

Бывае так (на жаль, бывае!), што залезе да нас у кішэнь злодзей і выцягне зарплату, якую толькі што выдалі ў касе. Ого, як мы тады рэагуем! Усіх лаем — і жулікаў, і міліцыю. Абурэнне законнае і справядлівае. Але ж розныя недарэкі, лайдакі, хуліганы (і жулікі таксама!) крадуць у нас кожны дзень значна больш. Удумайцеся толькі: яны ж не проста блытаюцца ў нас пад нагамі. Яны сваімі дзеяннямі аддаляюць ад нас камунізм. Не сакрэт жа, што калі б не было гэтай цвілі, гэтага пустазелля, калі б у нашым грамадстве кожны чалавек быў высока свядомым, крыштальна сумленны, наколькі б хутчэй мы прыйшлі да камунізма!

Праўда, цяпер мы маем багата прыкладаў, калі грамадскасць уздзейнічае на асобныя элементы, што ідуць насуперак яе волі, яе жаданням. Роля грамадскіх асноў у нашым жыцці няспынна ўзрастае. Аднак сёння пытанне ставіцца так, каб кожны сумленны чалавек даваў рашучы, прынцыповы бой перажыткам мінулага. (Мне могуць сказаць, што гэтае пытанне ніколі не знімалася з парадку дня. Правільна, не знімалася, але сёння яно набывае выключна вострае значэнне). Нас павінна ўсё датычыць.

Добра чалавек працуе, правільна паводзіць сябе — наша з вамі заслуга! Працуе абыяк, хуліганіць, п'янствуе, скандаліць, распусьнічае — наша з вамі віна. Значыць, нешта недагледзелі вы, яго суседзі, таварышы па рабоце. Калі, скажам, лайдачыць ці буяніць ваш брат або сын — вы ж не будзеце глядзець на гэта спакойна? Вы прымеце ўсе меры, выкарыстаеце ўсе сродкі, каб павярнуць яго на правільны шлях. Чаму ж нас не заўсёды хвалюе і непакоіць «чужы» хуліган, «чужы» абібок, «чужы» спекулянт? Няўжо нам цягнуць іх за сабой у камунізм, каб яны і там псавалі нам настрой? Не, толькі не гэта!

Калі гаварыць праўду, то мы з вамі павінны ўзяць на сябе вялікую частку віны за тое, што ў нас пад нагамі яшчэ блытаюцца падобныя тыпы. Даўно ўжо трэба было ўзяць іх за каршэнь і сказаць без усялякіх там дыпламатычных выкрутасаў: «Хопіць! Мы не дазволім вам атручваць смуродам мінулага нашае паветра, таптаць нашыя кветкі». У адносінах да такіх дармаедаў трэба займаць непрымірымую, жорсткую пазіцыю. Няхай ведаюць, што літасці ім не будзе!..

Гэтых перажыткаў мінулага, на жаль, у нас яшчэ нямала. Абыякавасць, чэрствасць, бюракратызм, прыватнаўласніцкія інстынкты, амаральнасць у розных яе праявах...

Але зусім асобна мне хацелася б сказаць пра велізарную шкоду перажытку, які, можа, камунебудзь здасца вельмі ўжо ціхманым і бяскрыўдным. Носьбіты яго не злоўжываюць спіртнымі напіткамі, не хуліганяць, блізкіх сваіх стараюцца не крыўдзіць. Я маю на ўвазе людзей, аблытаных павуціннем рэлігійных забабонаў.

* * *

Вось давайце, таварышы, уявім на хвілінку, што сёлета ў нас не 1961 год, а 1985... Небывалы прагрэс... Фантастычныя адкрыцці ў галіне навукі і тэхнікі... Машыны з атамнымі рухавікамі, турбавінтавыя паветраныя таксі... Кожны тыдзень касмічныя караблі робяць рэйсы на Месяц, дзе вырас цэлы гарадок — касмадром для міжпланетных караблёў... Зямляне чакаюць звароту касманаўтаў з Венеры і Марса. Усю самую цяжкую фізічную працу выконваюць машыны-аўтаматы з праграмным кіраваннем. Людзі жывуць у бясплатных кватэрах, харчуюцца за кошт дзяржавы. І раптам... раптам мы бачым чалавека, які стаіць на каленях перад старэнькай-старэнькай дошкай і просіць (просіць!) нейкіх міласцей ад нейкага бога! Смешна. Дзіка. Неверагодна.

Камунізм і бог! Паміж імі не можа быць мірнага суіснавання. Але гэты парадокс і сапраўды можа мець месца, калі мы своечасова, гэта значыць сёння, не прымем самых актыўных мер супрацьдзеяння. Мы не маем права ўступаць царкоўнікам і розным сектам душы нашых людзей. Хто не ведае, як нявечыць, асляпляе людзей рэлігія, як яна паралізуе іх волю і энергію, прыгнятае жаданні! А гэтым жа самым людзям трэба будаваць камунізм — сваё шчасце, адзінае і непаўторнае. Ім патрэбен зямны рай, а не тагасветны. Вось чаму рэлігія была і будзе нашым сур'ёзным ворагам, пакуль мы яе не даканаем.

Нядаўна мне давялося быць у розных раёнах Маладзечаншчыны. Я бачыў, як у нядзелю бабулі вялі ў касцёл або царкву маленькіх дзяцей. Бачыў, як гэтыя небаракі спалохана глядзелі на царкоўныя абразы, хуценька хрысціліся і паслухмяна цмокалі ў брудную, заседжаную мухамі нагу Ісуса Хрыста.

А такое ж творыцца не толькі на Маладзечаншчыне, але і на Гомельшчыне і на Брэстчыне, асабліва ў заходніх раёнах. Вось за каго мы павінны весці асабліва ваяўнічую і непрымірымую барацьбу— за дзяцей. Малое заўсёды давярае даросламу, верыць кожнаму яго слову. І калі старэйшы гаворыць, што «боҗанька» ёсць, дзіця сур'ёзна верыць, што гэта праўда.

Падумайце толькі, якая гэта вялікая трагедыя для душы дзіцяці, што толькі пачало пазнаваць навакольны свет, хараство жыцця. Разам з такімі цудоўнымі паняццямі, як «спадарожнік», «касманаўт», розум маленькага чалавека ўспрыймае і такія замшэлыя паняцці, як «бог», «рай», «пекла» і г. д. Колькі спатрэбіцца і нам потым намаганняў, каб сцерці з душы (ужо дарослага чалавека!) гэтую чорную, брудную пляму!..

Мне здаецца, што некаторыя з тых людзей, каму належыць займацца антырэлігійнай прапагандай, відаць, вырашылі, што нашы дасягненні ў галіне асваення космасу аўтаматычна знялі з парадку дня дыскусію аб існаванні бога. Маўляў, хто ж паверыць цяпер у гэтую казачку пасля палётаў Юрыя Гагарына і Германа Цітова? Аказваецца, вераць. Вераць нават у тое, што гэта іменна бог дапамог Гагарыну і Цітову. Вось як аператыўна выкарыстоўваюць царкоўнікі, служкі божыя дасягненні нашай навукі.

Справа даходзіць проста да анекдотаў... У жніўні я гутарыў з адным гомельскім лектарам-атэістам. Ён шчыра прызнаўся мне, што баіцца наступаць на рэлігію так, як яму хацелася б. Чаму? Баіцца, каб яго не абвінавацілі... у зняважэ пачуццяў веруючых. І смешна, і грэшна! Чалавек у корані няправільна зразумеў вядомае пісьмо ЦК КПСС аб памылках у антырэлігійнай прапагандзе і па сутнасці справы перастаў быць **ваяўнічым атэістам.** А мы, савецкія людзі, тым і адрозніваемся ад бязбожнікаў усіх часоў і эпох, што з'яўляемся **ваяўнічымі атэістамі.** Мы ніколі не былі і не будзем нейтральнымі ў адносінах да рэлігіі. Як можна быць абыякавым да свайго ворага?

А потым, дакуль мы будзем валіць усё на лектараў-атэістаў? Іх, на жаль, не так ужо і многа. Кожны, літаральна кожны з нас павінен дапамагаць партыі вызваляць людзей з павуціння рэлігіі, вызваляць любымі сродкамі і метадамі. Нас, бязбожнікаў, у дзесяткі разоў больш чым веруючых. І калі, скажам, 15—20 чалавек возьмуцца перавыхаваць толькі аднаго багамольца, у камунізм усе прыйдуць атэістамі. Глядзіце, не такая ўжо і цяжкая задача: 15—20 чалавек на аднаго веруючага. Няўжо не перавыхаваем, не пераканаем? Ды быць не можа!

* * *

Акрамя атэістычнай прапаганды, нам вельмі многа трэба зрабіць для таго, каб наогул узняць культурны ўзровень народа. У культурным уздыме народа партыя бачыць залог пераможнага камуністычнага будаўніцтва. На гэтай ніве ўсім спраў хопіць: і пісьменнікам, і работнікам культуры, і нам, журналістам. І мы хутчэй даб'ёмся перамогі на гэтым мірным высакародным фронце, калі кожны чалавек будзе адчуваць сябе актыўным байцом яго, будзе ўсведамляць, што іменна ад яго, ад яго працы залежыць лёс будучыні, лёс камунізма.

**Мікалай МАТУКОЎСКІ.**



Мінск. 7 лістапада

У марах яны аж да зор
узлятаюць,
У сэрцах юначых запал і уздым.
Ніштo іх імкненняў нідзе не
стрымае —
Бо камунізм будаваць маладым.

# ПЕРАД НАМІ — НОВЫЯ ДАЛІ

ПРАГРАМА будаўніцтва камунізма, зацверджаная XXII з'ездам партыі, натхняе наш народ на грандыёзныя працоўныя подзвігі, адкрывае новыя неабсяжныя далягляды.

Што ж павінны зрабіць работнікі савецкага тэатра, як яны мусяць працаваць, каб быць вартымі свайго вялікага народа — будаўніка камунізма? Мы заклікаіны быць вернымі памочнікамі партыі ў барацьбе за перадавую, камуністычную свядомасць, за новыя, камуністычныя адносіны паміж людзьмі, уславіць прыгажосць душы і веліч здзяйсненняў, працоўную доблесць і высакароднасць савецкага чалавека, заклікаіны замацаваць у розумах і сэрцах людзей вялікія прынцыпы камунізма: Мір, Працу, Свабоду, Роўнасць, Братэрства і Шчасце ўсіх народаў. Наша мастацтва мусіць быць такім палымяным, як сам дух Праграмы пабудовы камунізма, яно павінна абуджаць у нашых людзей такі ж уздым, які выклікаў у народзе найвялікшы дакумент эпохі.

Калектыў Рускага драматычнага тэатра БССР, уключыўшыся ў спаборніцтва за дастойную сустрэчу XXII з'езда нашай партыі, паказаў тры спектаклі на сучасную тэму: «Акіян» А. Штэйна, «Провады белых начэй» В. Пановай, «Выганне блудніцы» І. Шамякіна. Тэатр рэпеціруе інсцэніроўку рамана Ю. Германа «Адзін год» і адну з лепшых п'ес А. Астроўскага «Беспасажніца».

Мы ўзбагачаем рэпертуар лепшымі п'есамі рускай і зарубежнай класікі, драматургіяй Шэкспіра, адну з п'ес якога неўзабаве паставім.

Але асноўную ўвагу мы звяртаем на пастаноўку спектакляў пра нашага сучасніка, пра станоўчага героя нашых дзён. Таму мы з нецярплівасцю чакаем п'ес ад нашых савецкіх, і у першую чаргу — беларускіх драматургаў.

Хоць дакоры ў адрас драматургаў далёка не новыя, мы ўсё ж прад'яўляем да іх свае патрабаванні, таму што ўсе нашы думкі, усе мары так і застануцца марамі, калі не атрымаем у бліжэйшы час добрых п'ес. Нельга сказаць, што п'ес мала: іх пішуць даволі многа і часта прыносяць у тэатр. На жаль, добрых, таленавітых твораў вельмі мала. Пачынаючыя драматургі яшчэ слаба ведаюць элементарныя законы драматургіі, сцэны. Яны не ўмеюць яшчэ пабудаваць сапраўдны канфлікт, ярка раскрыць характары і г. д. За апошнія два месяцы ў тэатры прачытана многа п'ес мясцовых аўтараў, і пры ўсім жаданні нельга было спыніцца ні на адной з іх. Гэта тым больш крыўдна, што ў мінулым у нас былі вельмі плённыя кантакты з беларускімі драматургамі.

Апошні спектакль «Выганне блудніцы» па п'есе І. Шамякіна таксама гаворыць пра вялікае жаданне тэатра актыўна ўдзельнічаць у жыцці рэспублікі, імкненне ўславіць працу калгаснага сялянства, дапамагчы партыі ў выхаванні савецкіх людзей у духу камуністычнай маралі. Нас далёка не задавальняе тое, што мы пакуль што робім, мы імкнёмся працаваць лепш, ставіць больш п'ес беларускіх аўтараў. Мы чакаем добрых п'ес, якія б хвалявалі гледачоў і доўга трымаліся на сцэне. За вамі слова, таварышы драматургі!

Нас часта дакараюць, быццам мы не жадаем працаваць з аўтарамі, не дапамагаем пачынаючым пісьменнікам. Вопыт работы падказвае, што дапамога тэатра дае станоўчыя вынікі толькі тады, калі ў асноўным п'еса ўжо ёсць, яе думкі выразна акрэслены, вынашаны аўтарам і ім нададзена пэўная драматургічная форма. Аўтар павінен прыносіць у тэатр не матэрыял, а п'есу, бо калектыўная творчасць над п'есай у тэатры ні да чаго добрага не прыводзіць.

Драматург павінен ведаць тэатр, яго почырк, яго акцёраў — А. Штэйн любіць працаваць з М. Ахлопкавым, А. Арбузаў піша п'есы спецыяльна для Тэатра імя Вахтангава і нават — для артысткі Ю. Барысавай. Наш тэатр, які мае ў сваім складзе трупу моцных, высокапрафесіянальных акцёраў, таксама хоча мець сваіх любімых беларускіх драматургаў, дружба з якімі, сумесная з імі праца ўзбагацілі б і тэатр і саміх аўтараў. Вопыт работы з некаторымі драматургамі пераконвае нас у неабходнасці такой дружбы.

Для таго, каб знаходзіцца ў самой гушчы жыцця, каб на поўны голас размаўляць з працоўнымі нашай рэспублікі пра самае важнае, недастаткова працаваць толькі ў сваім памяшканні па вуліцы Валадарскага. Мы паказваем свае спектаклі ў многіх раённых цэнтрах. І там асабліва выразна адчуваеш, якая вялікая цяга ў народа да мастацтва, як актыўна гледачы рэагуюць на ўсё, што варта пераймання і як гнеўна асуджаюць дробнае, пошлае, мяшчанскае.

Імкнучыся наладзіць кантакт з нашымі гледачамі, у прыватнасці, з моладдзю, мы ў кастрычніку тры разы абмяркоўвалі спектакль «Провады белых начэй» непасрэдна пасля закрыцця заслоны. У размове пра спектакль самы актыўны ўдзел прынялі не толькі моладзь заводаў і вышэйшых навучальных устаноў, але і гледачы больш старэйшага ўзросту. Размова па шчырасці, з вока на вока з выканаўцамі (дарэчы, асноўная частка выканаўцаў таксама моладзь), сур'ёзны разгляд п'есы, яе станоўчых і адмоўных якасцей выклікалі гарачыя спрэчкі. Карыснасць сустрэч гледачоў і творчых работнікаў відавочная.

Да гэтага часу не задавальняе рэцэнзаванне тэатральных спектакляў у друку. Крытыка заклікана дапамагаць нашай працы, аб'ектыўна, з прынцыповых пазіцый, удумліва падыходзіць да разгляду кожнага новага сцэнічнага твора. Тэатральныя рэцэнзіі вельмі рэдка пішуцца на высокім узроўні. Як правіла, пасля доўгага пераказу зместу п'есы даецца безапеляцыйная ацэнка работы рэжысёра і выканаўцаў («добра», «дрэнна», «справіўся з роллю», «не справіўся»). Адзін з лепшых крытыкаў Н. Эфрос, звычайна прысутнічаў на генеральных рэпетыцыях і толькі пасля чатырох-пяці праглядаў спектакля браў на сябе смеласць публічна выказваць сваё меркаванне. Ён пазбягаў выпадковых павярхоўных уражанняў, погляду «збоку».

А вось гэты погляд, на жаль, мае месца ў многіх рэцэнзіях. Дрэнна і тое, што рэцэнзенту, як правіла, не хапае часу паглядзець другі склад выканаўцаў, і ён наогул застаецца па-за рамкамі артыкула.

Як было б карысна для тэатра, калі б хоць зрэдку ў нашым друку абмяркоўваліся старыя спектаклі, якія доўга ідуць. Мейерхольд гаварыў аб тым, што крытыкі прыходзяць паглядзець толькі прэм'еры, тады як спектакль пачынае набіраць сапраўдную сілу дзесьці з дваццатага паказу, калі з яго знікае ўсё выпадковае і застаецца толькі тое, пра што думаў рэжысёр і да чаго імкнуліся акцёры ў ходзе рэпетыцый. А як ідзе спектакль пасля сотага, двухсотага паказу?

Да гэтага часу не абагулены і вопыт работы мастацкіх саветаў у тэатрах рэспублікі. Чым больш творчых пытанняў будзе разглядаць на сваіх пасяджэннях мастацкі савет, тым больш карысці ён прынясе калектыву.

Відаць, варта членам нашага мастацкага савета іншы раз папрысутнічаць на пасяджэннях мастацкага савета Тэатра імя Янкі Купалы, пераняць лепшае, чаго яны дасягнулі ў сваёй працы, і ў сваю чаргу іншы раз запрашаць вядучых майстроў беларускага тэатра на пасяджэнні нашага мастацкага савета.

Я памятаю, што пры абмеркаванні рэпетыцыі «Провады белых начэй» удзел І. Шамякіна вельмі ажывіў наша пасяджэнне, унёс штосьці новае, цікавае, яго сяброўскія заўвагі ў адрас рэжысёра і выканаўцаў былі ўважліва выслуханы і ўлічаны пры далейшай рабоце.

Будучыню тэатра вызначае моладзь. У апошнія гады прыток у наш тэатр маладых акцёраў і актрыс, якія канчаюць вышэйшыя тэатральныя ўстановы, быў па сутнасці зведзены да мінімуму. Між тым, няспыннае папаўненне трупы таленавітай моладдзю з'яўляецца адзнакай росту творчага складу, зарукай яго няспыннага руху наперад. Сістэма конкурсаў у многім садзейнічае росту і абнаўленню тэатральных калектываў, і мы ўпершыню вырашылі выкарыстаць яе сёлета. Апроч таго, нам вельмі хочацца наладзіць цесную, жывую сувязь з Беларускім тэатральна-мастацкім інстытутам. Мы не можам паскардзіцца на яго выпускнікоў, у нас з поспехам працуе цэлая група акцёраў, якія ў розныя гады скончылі гэтую навучальную ўстанову.

Думаю, што для студэнтаў вельмі карысна было б праходзіць практыку на сцэне нашага тэатра і непасрэдна ўдзельнічаць у спектаклях тэатра, сустрэцца на адных падмостках з такімі акцёрамі, як Р. Качаткоў, А. Клімава, з такімі рэжысёрамі, як В. Рэдліх, М. Співак. Час сур'ёзна падумаць пра гэта і нам, работнікам тэатра, і кіраўнікам інстытута, і Міністэрству культуры. Напрыклад, мы, былыя выхаванцы Тэатральнага вучылішча імя Шчэпкіна, пачынаючы з другога курса, рэгулярна ўдзельнічалі ў спектаклях Малога тэатра, на практыцы замацоўваючы тое, што выкладалі нашы настаўнікі. Праблема выхавання моладзі, нашай тэатральнай змены павінна стаць першачарговай, бо яны, цяперашнія студэнты, пачынаючыя акцёры будуць жыць пры камунізме, разам з усім савецкім народам удзельнічаць у будаўніцтве новага свету, актыўна дапамагаць партыі ў справе выхавання чалавека камуністычнага грамадства, у здзяйсненні вялікай Праграмы, названай народам камуністычным маніфестам нашай эпохі.

**Ю. СІДАРАЎ,**
**дырэктар дзяржаўнага Рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага.**

## Сярод кніг

# КАРЫСНАЕ ПАЧЫНАННЕ

У нашы дні, калі Камуністычная партыя Савецкага Саюза ўрачыста абвясціла: «Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме»,—выхаванне дзяцей дастойнымі членамі камуністычнага грамадства набывае асаблівае значэнне.

У камуністычным выхаванні моладзі вялікая роля належыць мастацкай літаратуры.

Перад намі зборнікі твораў для дашкольнікаў: «Дзецям» і «Мы спяваем».

Дашкольны ўзрост—якраз той час у жыцці чалавека, калі пачынаюць фарміравацца паняцці, адбываецца знаёмства з навакольным светам, зараджаюцца рысы характару. Кнігі ж пашыраюць кругагляд дзіцяці, вучаць яго мысліць, развіваюць мову і памяць.

Таму ўкладанне зборніка мастацкіх твораў для дашкольнікаў—справа сур'ёзная і адказная. Патрэбны творы самыя разнастайныя па тэматыцы і, разам з тым, высокамастацкія—лепшае, што ёсць для маленькіх у беларускай літаратуры і вуснай народнай творчасці беларускага народа.

Зборнік «Дзецям», як піша складальнік яго Д. Шышонак,—«першая спроба даць сістэматычны зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў і вуснай народнай творчасці... для чытання ў дзіцячых садах».

У кнізе тры раздзелы. Першы адрасуецца дзецям трох-чатырох год. Матэрыялы яго разнастайныя, але ўсё ж вельмі мала такіх, якія б чаму-небудзь вучылі маленькіх чытачоў. Толькі верш «Я сама» І. Муравейкі і апавяданне «Яблык» В. Хомчанкі паказваюць прыклады добрых паводзін дзяцей. У раздзеле — 23 творы 14 аўтараў і 11 твораў вуснай народнай творчасці. Але, як ні дзіўна, амаль ні адзін з іх не гаворыць пра сённяшняе жыццё і працу савецкіх людзей. Затое пашанцавала «пярэсценькаму катку»: ён—герой сямі твораў гэтага раздзела! Чаго варты адбор матэрыялаў, можна меркаваць хоць бы па такіх радках, якія чамусьці таксама трапілі ў кнігу:

— Дзе былі?
— У бабкі.
— А што елі?
— Кашку.
— А што пілі?
— Бражку(!).

Другі раздзел—творы для дзяцей пяці-шасці год—больш разнастайны, хаця і тут падзеі абмежаваны пакоем, домам, дваром, садам, агародам.

Лепшыя матэрыялы гэтага раздзела—творы Я. Купалы «На нашым полі», Я. Брыля «Жыў-быў вожык», Я. Журбы «Шпак», П. Ткачова «Верабейка», В. Хомчанкі «Баравікі», народныя казкі «Зайкава хатка», «Коцік, пеўнік, і лісіца», «Як курачка пеўніка ратавала».

Думаецца, у кнізе не варта было б змяшчаць народныя пацешкі і лічылкі—«Гушкі, гушкі, гушкі...», «Ладачкі-ладкі», «Сарока-варона», якія дзеці чулі не раз у аднагадовым і двухгадовым узросце.

Наступны раздзел прызначаны дзецям шасці-сямі год. Ён выгадна адрозніваецца ад першых двух раздзелаў больш шырокім паказам нашага савецкага жыцця. Тут і верш Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык», і вершы Андрэя Александровіча «Наш дзень» і «Як цацкі зрабіць самому», Сяргея Грахоўскага «Кастрычніцкая песня», Артура Вольскага «Наша песня», «Чыгунка», «Мора» і цудоўныя песні Якуба Коласа аб прыродзе.

Многія з твораў гэтага раздзела не толькі пазнавальнага характару. Яны расказваюць пра мараль савецкіх людзей, шчырыя, сяброўскія ўзаемаадносіны дарослых і дзяцей у нашым грамадстве.

Хлопчык Кастусь з апавядання В. Хомчанкі «Білеты ў цырк» дапамагае сляпому—праводзіць яго да вакзала, хоць сам пры гэтым позніцца ў цырк на цікавы паказ. Высакародны ўчынак Кастуся, бясспрэчна, з'явіцца прыкладам для другіх дзяцей. Апавяданне сцвярджае, што той, хто дапамагае другім,—малайчына.

Добрую думку сцвярджае і народная казка «Лёгкі хлеб»: не шукай лёгкага хлеба, а працуй, бо хто не працуе, той не есць.

Варта кінуць папрок у адрас укладальніка зборніка за тое, што ён абыякава паставіўся да творчасці народных паэтаў Я. Купалы і Я. Коласа, а таксама іншых выдатных нашых паэтаў і пісьменнікаў. Іх твораў у кнізе мала.

Добра, што ўкладальнік зборніка «Дзецям» уключае ў кнігу загадкі, прыказкі і прымаўкі, апісанні народных гульняў. Было б яшчэ лепш, калі б яны ілюстраваліся малюнкамі.

Вялікі знаўца дзіцячай душы, выдатны рускі педагог К. Ушынскі гаварыў, што дзіцячая прырода патрабуе нагляднасці. Ён прыводзіць такі прыклад: дзіця будзе доўга мучыцца над тым, каб вывучыць пяць невядомых яму слоў, і вельмі хутка засвоіць нават дваццаць такіх слоў, калі яны будуць звязаны з малюнкамі. «Вы тлумачыце дзіцяці вельмі простую думку,—гаварыў ён,—і яно вас не разумее; вы тлумачыце таму дзіцяці складаную карціну, і яно вас разумее хутка».

Нездарма першымі кнігамі дзяцей з'яўляюцца кніжкі-малюнкі, якія выклікаюць у дзіцяці жаданне называць прадметы, гаварыць аб іх і, значыць, садзейнічаюць развіццю іх мовы.

На жаль, гэта не ўлічылі ні ўкладальнік зборніка, ні выдавецтва. Малюнкаў у кнізе вельмі мала, да таго ж яны аднакаляровыя, невыразныя, а часам і зусім няўдалыя, як, напрыклад, малюнкі да верша Ул. Корбана «Авечка», да верша «Дуб да дуба нахіліўся» і інш. Прыгожыя каляровыя малюнкі не толькі б дапамаглі дзецям лепш разумець прачытанае, але і спрыялі б развіццю іх мастацкага густу.

У кнізе «Мы спяваем» змешчаны песні, танцы і вершы. Зборнікі «Дзецям» і «Мы спяваем» узаемадапаўняюць адзін аднаго. Музыка, песні, танцы—гэта жыватворная крыніца, якая не толькі дае асалоду і развівае пачуццё прыгожага, але з'яўляецца і магутным сродкам камуністычнага выхавання. Зборнік «Мы спяваем» знаёміць дашкольнікаў з песнямі савецкіх кампазітараў аб Леніне, рэвалюцыйных святах, а таксама з беларускімі народнымі песнямі. Усё гэта добра, але, зноў такі, ці варта развучваць з дашкольнікамі песні «Беларуская тэнцавальная» і «Кума, мая кумачка»? Тэксты гэтых песень далёка не адпавядаюць іх узросту.

І ўсё ж, нягледзячы на адзначаныя недахопы, выданне зборнікаў мастацкіх твораў для дашкольнікаў трэба вітаць. Работа ўкладальнікаў названых зборнікаў заслугоўвае адабрэння. Толькі было б значна лепш, каб яна выконвалася ў цесным супрацоўніцтве з пісьменнікамі, кампазітарамі, выхавацелямі дзіцячых садоў, выкладчыкамі літаратуры і спеваў.

Мастацкае слова выдатных майстроў беларускай літаратуры павінна стаць любімым дзецьмі з першых год жыцця.

**М. АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

«Дзецям». Зборнік мастацкіх твораў для чытання ў дзіцячых садах. Складальнік Д. П. Шышонак. Дзяржвучпедвыдавецтва БССР. Мінск. 1960.

«Мы спяваем». Зборнік песень і вершаў для дашкольнікаў. Склала С. Альхімовіч. Дзяржвучпедвыдавецтва БССР. Мінск. 1959.

# ТАКІЯ КНІГІ ПАТРЭБНЫ І НАМ

У сувязі са стагоддзем са дня смерці геніяльнага паэта-рэвалюцыянера Тараса Шаўчэнкі 1961 год на Украіне называюць шаўчэнкаўскім. Юбілей вялікага Кабзара на Украіне набыў характар усенароднага свята.

Як і трэба было чакаць, юбілейны год унёс многа новага ў шаўчэнкіяну. Літаратура аб жыцці і творчасці Кабзара папоўнілася працамі самага разнастайнага характару. Асаблівае месца займаюць праблемныя работы, у якіх вырашаюцца важныя пытанні творчасці Шаўчэнкі, сярод іх нядаўна выдадзеная Акадэміяй навук УССР кніга Яўгена Шабліёўскага «Народ і слова Шаўчэнкі».

Я. С. Шабліёўскі з'яўляецца адным з віднейшых шаўчэнказнаўцаў нашай краіны. З першымі работамі пра Кабзара ён выступіў яшчэ ў трыццатых гадах. Яго пяру належаць, у прыватнасці, вядомыя даследаванні аб сувязях Шаўчэнкі з рускімі рэвалюцыянерамі-дэмакратамі.

Апошняя праца Шабліёўскага з'яўляецца самай значнай. Яна прысвечана вырашэнню праблемы народнасці і нацыянальнай своеасаблівасці творчасці Шаўчэнкі. Як адзначае аўтар, «гэта не толькі гісторыка-літаратурная, не толькі навукова-даследчая праблема. Гэта актуальнае культурнае і палітычнае заданне сучаснасці», бо гаварыць аб народнасці і нацыянальнай своеасаблівасці творчасці Шаўчэнкі — значыць, гаварыць не толькі аб мінулым украінскай літаратуры, але і аб важных праблемах яе сацыялістычнага станаўлення.

Аўтар кнігі «Народ і слова Шаўчэнкі» паставіў перад сабой складаную задачу — раскрыць у творчасці Кабзара той «дух» украінскага народа, які, паводле выказвання М. Горкага, з такім «хараством, сілай і паўнатой» раскрыў перад усім светам вялікі паэт, чым абумовіў далейшае мастацкае развіццё ўкраінскага народа і ўзбагаціў агульначалавечую скарбніцу культуры.

Характарызуючы народнасць і нацыянальныя асаблівасці творчасці Т. Шаўчэнкі, Я. Шабліёўскі вызначыў месца Кабзара як паэта нацыянальнага і разам з тым як паэта сусветнага, паказаў яго сувязі з папярэдняй і пазнейшай літаратурай, з фальклорам, вызначыў тое новае, што ўнёс Шаўчэнка ў нацыянальную і сусветную культуру. У рабоце закрануты праблемы традыцый і наватарства, індывідуальнага, нацыянальнага і агульначалавечага, эстэтычнай канцэпцыі і мастацкага ідэалу паэта, праблемы яго творчага метаду і мастацкіх асаблівасцей. Вырашэнне гэтых пытанняў як бы завяршаецца ў паказе грамадскага значэння творчасці Шаўчэнкі, яе ролі ў вызваленчай барацьбе ўкраінскага і іншых народаў.

Пастаноўка важнейшых праблем творчасці ўкраінскага Кабзара і паспяховае вырашэнне іх Я. Шабліёўскім не можа не прыцягнуць нашай увагі. Выкарыстаўшы амаль усё лепшае з шаўчэнкіяны, у тым ліку працы беларускага пісьменніка Максіма Багдановіча, даследчык даў узор таго, як трэба пісаць праблемна-сінтэтычныя работы аб творчасці выдатных пісьменнікаў.

Такія кнігі патрэбны і нам, беларускім чытачам. Хацелася б мець грунтоўныя работы аб народнасці і нацыянальнай своеасаблівасці перш за ўсё творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта быў бы добры падарунак чытачам да 80-годдзя з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі, якое будзе шырока адзначацца нашай грамадскасцю ў наступным годзе.

**П. АХРЫМЕНКА.**



Зямлю скалыхнуў магутны гром
І водгулле апала на прасторы,
Рознакалёрным залатым агнём
Салют зацьміў мігценне зорак.

# ЗАМЕСТ АПОВЕСЦІ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

гэтага не змяняецца. Ён накіроўваецца ў райвыканком пасля ў райком партыі, яму абяцаюць разабрацца. Праходзіць нейкі час, Яўстрат Сяргеевіч зноў ідзе на станцыю і бачыць усё той жа малюнак: пад адкрытым небам валяюцца каштоўныя топкі для кацельных, на двары станцыйнага склада зарастаюць бур'янам камбайны і іншыя сельгасмашыны. «Як жа так? — абураецца Яўстрат Сяргеевіч. — Калі гэтыя топкі і машыны не патрэбны ў раёне, дык навошта іх сюды прывезлі? Калі ж патрэбны, чаму не выкарыстоўваюць?».

У палкоўніка ў адстаўцы ёсць вопыт ваенкора, і ён бярэцца за пяро. Спачатку піша ў раённую газету, — не дапамагае. Піша ў рэспубліканскую — адзін раз, другі, трэці. Тэхніку, нарэшце, прыбіраюць да рук...

Так, у жыцці ёсць больш важныя справы, чым уласны дом. Якія? Паглядзіце, зусім яшчэ горкае дзіця, а не вучыцца, прадае на рынку семячкі. Хіба гэта парадак? Яўстрат Сяргеевіч адводзіць дзяўчынку ў бок, пытаецца асцярожна, каб не спалохаць, як яе імя, дзе і з кім жыве. Потым бярэ дзяўчынку за руку, ідзе да яе дамоў. Аказваецца, што малая—сірата, жыве са сваёй бабуляй. А бабуля не хоча нікуды адпускаць ад сябе ўнучку, не дазваляе вучыцца. Яўстрат Сяргеевіч адразу ідзе ў гарсавет, звоніць у райана, асабіста гутарыць з дырэктарам школы-інтэрната. Настойліва ўсюды паўтарае: «Дзяўчынка павінна вучыцца! Хто з яе вырасце, калі яна будзе з такога ўзросту прадаваць семячкі на рынку?» Дакладна не ведаю, чым скончылася гэтая гісторыя, але тым не менш упэўнены, што калі да яе меў дачыненне Гарбатаў, значыць, справа ўладжана, даведзена да канца.

У гісторыі з машынамі, якая адбылася каля чатырох год назад і якую сёння яшчэ памятаюць у Рагачове, у гісторыі з дзяўчынкай,—увесь Яўстрат Сяргеевіч з яго чалавечнасцю, адданасцю грамадскаму абавязку, непрымірымасцю да недахопаў, вялікіх і малых, да ўсялякіх агіднасцей.

Уявіце сабе такі малюнак. Па вуліцы гарадка ідзе чалавек. І хоць ён не толькі не старшыня гарсавета, а і зусім не службовая асоба, яго асноўны клопат—жыццё гарадка, грамадскія інтарэсы. У лексіконе гэтага чалавека адсутнічае фраза: «Не мая справа». Ён ні на хвіліну не сумняваецца, што за ўсё адказвае. Літаральна за ўсё—за грамадскі парадак у горадзе і за работу авіямадэльнага гуртка ў Доме піянераў, за адпачынак моладзі і за захаванне кожнага дрэўца, за абсталяванне пляжа на беразе ракі і за барацьбу з браканьерамі, за работу універсітэта культуры і за выхаванне дзяцей у беларускай сярэдняй школе, за азеляненне двара камунальнага дома і нават вунь за лёс галубоў, —словам, за ўсё. Гэты чалавек — Яўстрат Сяргеевіч Гарбатаў.

Цяжка пераацаніць тое, што робіць Яўстрат Сяргеевіч для агульнай справы, для людзей. У яго заўсёды безліч грамадскіх даручэнняў, яго выбіраюць у розныя камітэты, саветы, камісіі. І ён на дзіва лёгка ідзе з гэтай поўнай «выкладкай». Ніхто ні разу не чуў, каб Гарбатаў паскардзіўся, што яму цяжка, каб ён адмахнуўся ад якога-небудзь даручэння ці проста не выканаў яго, як гэта ўмеюць рабіць іншыя. Наадварот, ён задаволены і яшчэ больш ажывае, калі яму давяраюць новую справу. Кожнае грамадскае даручэнне для яго—яшчэ адна жаданая магчымасць быць карысным.

Мне даводзілася сутыкацца з Гарбатавым па рабоце ў раённым штабе добраахвотных народных дружын. Трэба было бачыць, з якім запалам узяўся Яўстрат Сяргеевіч як член штаба за новае даручэнне. Пакойчык, адведзены пад штаб, быў вельмі няўтульны. Гарбатаў сам абсталяваў яго, насіў мэблю, прыбіваў плакаты і лозунгі. Потым не ладзілася справа з дзяжурствам, то іншы раз не з'яўляліся дружыннікі, то члены штаба забываліся пра свае абавязкі. Яўстрат Сяргеевіч турбаваўся, перажываў: «Як жа так, гэта ж вельмі важная справа, а да яе так абыякава ставяцца». Ён ішоў да начальніка штаба, асабіста цікавіўся, як выконваецца графік дзяжурстваў. Сам жа Яўстрат Сяргеевіч быў прыкладам для ўсіх нас. Калі пагартаць журнал дзяжурнага па штабу і перагледзець запісы, зробленыя круглым акуратным почыркам Гарбатава, то пераканаешся, як многа робіць гэты чалавек для таго, каб горад мог спакойна спаць, каб яго сон не трывожыў ні свіст хулігана, ні хрыплая песня п'яніцы.

Я ўжо расказваў пра выпадак з дзяўчынкай, якая прадавала на рынку семячкі. Трэба сказаць, што Яўстрат Сяргеевіч наогул вялікі друг дзяцей. І справа тут не толькі ў тым, што ён з'яўляецца намеснікам старшыні раённага савета піянерскай арганізацыі і многае робіць, каб піянерская работа вялася па-сапраўднаму. Колькі старання і энергіі прыкладае ён да таго, каб у горадзе адкрыўся, нарэшце, піянерскі парк, каб была арганізавана выстаўка дзіцячых малюнкаў і г. д. Проста Яўстрат Сяргеевіч любіць дзяцей, хутка знаходзіць з імі агульную мову і агульную справу. Іншы раз нават хутчэй, чым з дарослымі. Гэта добра ведаюць дзеці, што жывуць у адным з ім доме. Дарэчы, жыве Яўстрат Сяргеевіч з жонкай у невялікай, амаль з аднаго пакойчыка, кватэры. «Што зробіш,—гаворыць ён,—не хапае пакуль што жылплошчы. Ды нам з Марыяй Абрамаўнай многа і не трэба. Праўда, калі прыязджаюць летам дзеці і ўнукі,—цеснавата. Ну, ды нічога...» Напэўна, усе школьнікі горада ведаюць Яўстрата Сяргеевіча. Ён удзельнічае ў падрыхтоўцы і правядзенні піянерскіх злётаў, урачыстых лінеек, збораў. Праводзіць на іх гутаркі. Мне запомніўся такі эпізод. Яўстрат Сяргеевіч вяртаецца з нейкай піянерскай урачыстасці з гальштукам на шыі (гальштук ярка палымнее на белым кіцелі) і ўсхвалявана ўсміхаецца—расчуліла, відаць, ветэрана сустрэча з малымі.

Для яго, як сапраўднага камуніста, што жыве не толькі сённяшнім днём, а глядзіць уперад, афарызм —«Дзеці—наша будучыня» — мае самы рэальны, жыццёвы змест. Што ж датычыць яго пастаяннай важданіны з малымі, дык, вядома, якія патрэбны дарослым для гэтага якасці. У Яўстрата Сяргеевіча яны ёсць, у прыватнасці, здольнасць радавацца і захапляцца. Наколькі яго турбуюць і абураюць усялякія агіднасці, настолькі радуе ўсё чыстае, светлае, высакароднае. Я памятаю, як быў рады Яўстрат Сяргеевіч, калі ў горадзе была арганізавана (не без яго, вядома, удзелу) выстаўка кветак. З самым шчырым захапленнем ён можа расказваць пра спаборніцтвы юных авіямадэлістаў, пра тое, як растуць садовыя дрэўцы, перасаджаныя ім разам з дзецьмі з закладзенага імі ж плодагадавальніка, і пра многае іншае, што сапраўды заслугоўвае нашага захаплення.

І яшчэ адна рыса, без якой, пэўна, партрэт майго героя быў бы няпоўны. Бывае яшчэ так, што мы як быццам нядрэнна выконваем свой грамадскі абавязак, лічымся паважанымі людзьмі. А вось каб дапамагчы каму-небудзь проста па-чалавечаму, проста па-сяброўску, дык не: то рукі, бачыце, не даходзяць, то часу няма, то жадання не хапае. І ўяўляю, як бы адчуваў сябе такі «чулы наогул» чалавек, калі б яму, замест звычайных анкет і лісткоў, прапанавалі, напрыклад, анкету з такімі пытаннямі: «Ці многа ў вас сапраўдных сяброў?», «Ці можаце вы назваць некалькі чалавек, якім дапамаглі ў жыцці, выручылі з бяды?», «Ці пішуць вам пісьмы, у якіх бы выказвалася павага і ўдзячнасць?», «Калі так, то колькі такіх пісем вы атрымліваеце?».

Думаю, што сяму-таму давялося б пачухаць патыліцу над такой анкетай. А вось Яўстрату Сяргеевічу—не. На ўсе пытанні ён даў бы станоўчы адказ. Ён мог бы расказаць пра капітана дальняга плавання Шалве Таклікішвілі, якому калісьці даў прытулак, дапамог паступіць у музычнае, а потым у мараходнае вучылішча. Тут жа ён мог бы ўспомніць і старшага механізатара Таганрогскага порта Васіля Гарбатава, якому таксама замяніў калісьці бацьку, даў сваё прозвішча. Васіль і капітан пішуць Яўстрату Сяргеевічу цёплыя сыноўнія пісьмы. Цёплыя пісьмы, расказаў бы далей Яўстрат Сяргеевіч, пішуць і з далёкай Сулюкты, дзе ён калісьці працаваў пасля грамадзянскай вайны. Не забываюць яго і дзяўчаты-сяброўкі, што жывуць цяпер у Краснаярску, якім ён дапамог знайсці дарогу ў жыцці пасля заканчэння сярэдняй школы...

Заканчваю свой кароткі (ён мог быць значна большым) расказ пра чалавека, пра якога трэба было пісаць паэму або аповесць, і з непакоем думаю: ці не трэба было б усё ж расказаць пра мінулае жыццё Яўстрата Сяргеевіча Гарбатава? Ну, напрыклад, аб тым, як сын батрака Яўстрат Гарбатаў, будучы яшчэ падлеткам, атрымаў незабыўны ўрок сацыяльнай несправядлівасці. На яго вачах лучынскі пан Вікоўскі забіў са сваёй новай дубальтоўкі рыбака Кузьму Гручанкова за тое, што той злавіў некалькі рыбін у панскім возеры. Возера тое па злавеснай іроніі лёсу называлася Добрым.

Аб трагедыі на беразе возера Яўстрат Сяргеевіч расказваў мне так, што я адразу зразумеў: ён нідзе і ніколі не забывае пра яе. Помніў ён той страшны ўрок і ў 1919 годзе, калі ўступіў добраахвотнікам у будзёнаўскі эскадрон, каб пайсці ў паход за новае жыццё, за новы свет, дзе «хто быў нічым, той стане ўсім», дзе чалавек чалавеку не воўк, а—друг і брат. Не забывае ён тое мінулае і сёння, калі мара аб самым справядлівым жыцці становіцца явай. Не забывае і, магчыма, таму так заўзята змагаецца з усім тым, што яшчэ засталося ад старога свету, і так натхнёна кладзе кожны дзень сваю цагліну ў будынак таго сонечнага палаца, план якога ўжо зацверджаны ў Крамлі і імя якому — камунізм.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

Рагачоў.

# Тут марыў пабываць Кабзар

За дваццаць пяць кіламетраў ад Слуцка раскінуўся невялікі пасёлак Рачкавічы — цэнтральная сядзіба аднайменнага саўгаса. У пасёлку ёсць клуб, бібліятэка, школа, бальніца. Жывуць у Рачкавічах працавітыя, сумленныя, шчырыя людзі.

Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі на месцы цяперашняга пасёлка быў маёнтак польскіх шляхцічаў Залескіх. Адзін з іх, Браніслаў Залескі (1820—1880 гг.) быў не толькі таленавітым мастаком, літаратуразнаўцам і этнографам, але і актыўным грамадскім дзеячом. За сувязі з тайным рэвалюцыйным гуртком Браніслаў Залескі быў арыштаваны і ў 1846 годзе сасланы радавым салдатам у Арэнбург. Тут ён у 1849 годзе пазнаёміўся і пасябраваў з Тарасам Рыгоравічам Шаўчэнкам. Зблізіла іх не толькі адно і тое ж месца ссылкі, але і аднолькавыя погляды на самадзяржаўе, аднолькавыя адносіны да існуючага ладу і парадку, аб чым сведчаць дзённікавыя запісы ўкраінскага паэта і перапіска паміж ім і Залескім, якая працягвалася да канца 1859 года.

У 1856 годзе Браніслаў Залескі вярнуўся з ссылкі і пасяліўся ў Рачкавічах. Адсюль, за тысячы кіламетраў, ён усяляк падтрымліваў ссыльнага Кабзара. Тарас Рыгоравіч вельмі цаніў гэтую сяброўскую падтрымку. У адным з пісьмаў ён пісаў Браніславу Залескаму: «Якое ж сябелюбівае стварэнне чалавек наогул, а я ў прыватнасці! Ты з такім чыстым захапленнем (інакш і быць не можа) пішаш мне аб сваім звароце на мілую радзіму, а я... Прабач мне, мой адзіны дружа! Я ледзьве не заплакаў: зразумела, адлегласць не можа замяніць цябе, майго сапраўднага, выпрабаванага сябра, але без цябе ўсё ж я сірата круглы ў Арэнбургскім бязлюдным краі».

Лісты Тараса Рыгоравіча гавораць, што ён марыў прыехаць у госці да Браніслава Залескага, наведаць яго маёнтак Рачкавічы. «Ты пішаш,—гаворыцца ў адным з пісьмаў Кабзара,—што... сястрычкі твае пытаюць цябе, калі прыедзе да іх стары прыяцель твой, які любіць добрых і мілых дзяцей? Цалуй іх, мой адзіны сябра, і скажы ім, што сэрца маё даўно ўжо з імі і што сам я прыеду да іх хутка і пацалую іх так, як ты іх цяпер цалуеш... Замест пецярбургскай чыгункі я выбіраю простую паштовую дарогу—смаленскую альбо віленскую і прыязджаю прама ў Рачкавічы».

З перапіскі Тараса Рыгоравіча і Браніслава Залескага відаць, што Шаўчэнка праяўляў вялікую цікавасць да быту і фальклору беларускага народа, вывучаў іх. Браніслаў Залескі спрыяў гэтаму, старанна інфармуючы Кабзара пра ўсе бакі тагачаснага культурнага жыцця беларускага народа.

Шаўчэнку не давялося пасля звароту з ссылкі наведаць Рачкавічы. Але перапіска з Б. Залескім, знаёмства пры яго дапамозе з бытам і культурай беларускага народа зрабілі дабратворны ўплыў на творчасць геніяльнага паэта...

Мінулым летам у саўгасе «Рачкавічы» працавала экспедыцыя Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, якая збірала матэрыялы аб сучасным побыце рабочых саўгаса. Супрацоўнікі экспедыцыі, між іншым, зацікавіліся, ці любяць працоўныя Рачкавіч песняра ўкраінскага народа, ці ведаюць аб яго сяброўстве з Браніславам Залескім. Адна пажылая жанчына сказала: «У нас у саўгасе ўсім вядома аб дружбе Шаўчэнкі з панам Залескім. Памятаю, што гадоў сорак таму назад гаварылі нават, быццам Тарас Рыгоравіч прыязджаў у Рачкавічы...»

У кожнай хаце вам не толькі раскажуць пра Тараса Рыгоравіча, але і пакажуць яго кнігі. Вершы неўміручага Кабзара гучаць і на канцэртах мастацкай самадзейнасці, і ў школе, і ў доме рабочага. Не памыляўся Максім Рыльскі, калі пісаў: «Я веру, я ведаю, што Кабзар жыве не толькі ў сэрцах беларускіх паэтаў, празаікаў, драматургаў, гісторыкаў літаратуры, але і ў сэрцы ўсяго беларускага народа».

**Ул. ІВАНОЎ,**
**начальнік этнаграфічнай экспедыцыі АН БССР.**

# БЕЛАЗАЎЦЫ

Паглядзіце, сябры...
Фотаздымак
у мяне пад рукою якраз:
паланіўшы стары Капенгаген,
там, дзе выстаўкі мірны метал,
зіхаціць прад вачыма павагі
са славутым зубром самазвал.
Сорак тон, нібы сорак пушынак,
носіць з грукатам — толькі
дазволь.
Як цыган, аглядае машыну
Генры Форд, знакаміты кароль.
Захапленне і зайздрасць на
сэрцы.
То адыдзе, то зноў пастаіць,
паспрабуе, ці моцныя дзверцы,
ды не можа ніяк адчыніць.

Так пісаў аб гэтай сустрэчы, якая сапраўды мела месца на выстаўцы ў Капенгагене, Анатоль Вялюгін.

Было чаму зайздросціць Форду, гледзячы на магутнага беларускага «зубра»: такой машыны не было ў яго, сусветна-вядомага аўтамабільнага караля. І ніяк не мог пагадзіцца стары жываглот, што зроблена яна не ў славутай Амерыцы, а ў Савецкай краіне, у «нейкай там» Беларусі.

...Тры гады назад на ўскраіне гарадскога пасёлка Жодзіна пачалі расці карпусы другога ў Беларусі аўтамабільнага завода. А ўжо праз год, у дні работы нечарговага XXI з'езда КПСС, тут быў сабраны першы 25-тонны самазвал. План першага года сямігодкі быў выкананы датэрмінова — 24 снежня 1959 года. 1960 год прынёс новыя слаўныя перамогі.



Вытворчасць магутных машын павялічылася ў 1,65 раза, быў асвоены выпуск «саракатоннікаў».

Сёлета, спаборнічаючы за дастойную сустрэчу XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, белазаўцы дасягнулі яшчэ большых поспехаў. «Табе, партыя, наша праца, наш парыў!» Гэтым адзіным імкненнем жыў увесь калектыў маладога прадпрыемства. У рапарце на імя XXII з'езда КПСС яны, беларускія аўтазаводцы, пісалі, што план дзевяці месяцаў па таварнай прадукцыі выкананы. Выпушчана звыш плана некалькі 25-тонных самазвалаў. Выпуск іх павялічыўся ў параўнанні з 1958 годам у 3,5 раза. У машыну ўнесена больш 300 канструктыўных змен. Да адкрыцця з'езда калектыў аўтазавода стварыў новую магутную машыну — «БелАЗ-540». Яе вага на 3,5 тоны менш «МАЗ-525», які выпускаецца зараз, а грузапад'ёмнасць павялічана на дзве тоны. Максімальная скорасць новага беларускага самазвала — 53 кіламетры ў гадзіну, супраць 30 кіламетраў у «МАЗ-525». Новая машына мае кароткую базу, паўаўтаматычную каробку перадач, арыгінальныя пнеўма-гідраўлічныя падвескі, яна кампактная і валодае высокімі эксплуатацыйнымі якасцямі. Канструкцыя новага самазвала дазволіць стварыць на яго базе цэлую серыю цяжкагрузных машын ад 27 да 110 тон. Укараненне ў вытворчасць самазвала «БелАЗ-540» дасць магчымасць заводу эканоміць у год больш 11 мільёнаў рублёў.

Першы 27-тонны самазвал паспяхова прайшоў выпрабаванні і экспануецца цяпер на Усесаюзнай выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве. На яго магутным і прыгожым бамперы красуюцца літары: «БелАЗ».

Новая машына нарадзілася тут, у светлых пакоях аддзела галоўнага канструктара, нарадзілася спачатку на паперы. Аддзел галоўнага канструктара — мозг завода. І вось «БелАЗ-540» створаны. Наперадзе — новыя планы, новыя задумы. Настойліва працуюць маладыя канструктары, нядаўнія выпускнікі Беларускага палітэхнічнага інстытута І. Муха, Г. Горын, А. Аблавацкі (*здымак № 1*). Пройдзе колькі часу і ў сям'і магутных самазвалаў з'явіцца яшчэ адзін — 45-тонны «БелАЗ-548».



«Мы — белазаўцы», — гавораць пра сябе беларускія аўтазаводцы. У гэтых словах гучыць сапраўдная гордасць.

У які б цэх, на які б участак ні заглянуў — усюды ідзе напружаная праца. Малады калектыў завода змагаецца за высокае званне завода камуністычнай працы. На «БелАЗе» — дзесяткі і сотні брыгад і ўчасткаў, якія ўжо носяць гэта ганаровае званне. Велічныя рашэнні XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, які прыняў разгорнутую праграму будаўніцтва камуністычнага грамадства, натхнілі аўтазаводцаў на новыя працоўныя і творчыя поспехі.

На галоўным канвееры, амаль побач, працуюць брыгады па падзборцы кабін А. Лютарэвіча, па зборцы рэдуктараў Я. Каблова, па зборцы карданных валаў Ул. Агейчыка. Напярэдадні 44-ай гадавіны Кастрычніка ўсе тры былі ўдастоены звання брыгад камуністычнай працы. Сябры шчыра віншуюць адзін аднаго з заслужанай перамогай (*здымак № 2*).

Тут жа, на галоўным канвееры, працуе і брыгада камуністычнай працы камуніста Анатоля Шылая. Брыгада занята зборкай задніх мастоў. Кожны член брыгады — актыўны рацыяналізатар і вынаходнік. Усе вучацца: хто ў пачатковай эканамічнай школе, хто ў школе рабочай моладзі, хто ў тэхнікуме.

Мы засталі членаў брыгады за некалькі мінут да гудка.

— За работу, сябры! — гаворыць Анатоль Шылай сваім таварышам Генадзю Анташкевічу і Аляксандру Нішчыку.

Быць заўсёды наперадзе, заўсёды ў пошуках, старацца сёння зрабіць больш, чым учора, — такімі думкамі жыве дружны калектыў белазаўцаў.

У цэху дробных серый, дзе ствараюцца магутныя саракатонныя самазвалы, мы пазнаёміліся з двума маладымі хлопцамі, слесарамі-зборшчыкамі Уладзімірам Крывалапам і Пятром Гайдучэнкам.

— Нашы лепшыя рацыяналізатары і актыўныя грамадскія работнікі, — сказаў сакратар камітэта камсамола завода Віктар Казлоўскі.

Сапраўды, хлопцы ўнеслі па некалькі каштоўных прапаноў па мадэрнізацыі «саракатонніка», Уладзімір — сакратар камсамольскай арганізацыі цэха, а Пятро — член заўкома.

Хлопцы аб нечым горача спрачаліся пад адкрытым капотам самазвала. Але хутка прыйшлі да агульнай згоды: паветраправод да шклоачышчальнікаў трэба ўдасканаліць. І верыцца, што гэта будзе зроблена, як былі зроблены імі заўвагі па рэканструкцыі сядла для пасажыра, маслаправода да механізма прымусовага пад'ёму кузава і інш.

Закончаны яшчэ адзін працоўны дзень. Члены брыгады па зборцы каробак пераменных перадач Віктара Скарахода задаволены: і сёння ёсць 125 працэнтаў нормы. Два гады носіць брыгада званне камуністычнай. Працуюць і жывуць тут сапраўды па-камуністычнаму. Высокая прадукцыйнасць працы, імкненне да ведаў, сяброўская ўзаемадапамога, свядомая дысцыпліна, агульныя клопаты пра поспехі калектыву — вось што вызначае змест жыцця брыгады Віктара Скарахода. Добрымі справамі сустрэла яна XXII з'езд партыі і 44-ю гадавіну Вялікага Кастрычніка. А ў брыгадзіра — двайная радасць: у дні работы з'езда ён стаў кандыдатам у члены вялікай партыі Леніна.

Скончыўся працоўны дзень. Але наш расказ пра белазаўцаў будзе няпоўны, калі мы тут паставім кропку.

Давайце пройдзем вечарам па заводскім пасёлку. За два гады тут вырас сапраўдны індустрыяльны гарадок са шматпавярховымі дамамі, магазінамі, сталовай, школай.

Вось кудысьці спяшаецца група хлопцаў і дзяўчат. Пойдзем за імі. Яны накіроўваюцца ў светлы двухпавярховы будынак непадалёк ад прахадной завода — філіял Мінскага аўтамеханічнага тэхнікума. 114 чалавек — токары, слесары, рамонтнікі, кантралёры — набываюць тут веды, рыхтуюцца стаць тэхнікамі-тэхнолагамі па халоднай апрацоўцы металу і аўтамабілебудаўніцтву.

Хлопцы і дзяўчаты вучацца старанна і надзвычай сур'ёзна. Упэўнена адказвае на занятках па тэорыі рэзання металу студэнтка 5-га курса токар механічнага цэха Зіна Казубовіч. Яе ўважліва слухаюць сябры (*здымак № 3*).

А побач, на праспекце Дзяржынскага, там, дзе ўзвышаецца помнік Уладзіміру Ільічу, летась вырас велічны будынак — Палац культуры. Гэта — любімае месца адпачынку аўтазаводцаў. Менш года мінула з тае пары, як Палац гасцінна адчыніў свае дзверы, а жодзінцы ўжо ганарацца сваёй заводскай самадзейнасцю. Больш 150 чалавек наведваюць харавы, танцавальны і драматычны калектывы. А мужчынскі і жаночы вакальныя актэты? А аркестр?

Заўзята танцуюць белазаўскія дзяўчаты імклівую беларускую польку! (*Здымак № 4*).

Над Жодзіна апускаецца ноч. Гарадок заснуў, адпачывае. Заўтра — новы рабочы дзень, дзень новых працоўных подзвігаў і перамог.

А завод не спіць. Па-ранейшаму тут успыхваюць вокны пад асляпляльнымі іскрамі электразваркі, натужна гудуць магутныя станкі-стругачы, вухаюць велізарныя кавалі-прэсы.

З варот галоўнага канвеера паволі выходзіць новы самазвал. І ўсё роўна, дзе ён будзе працаваць — ці на берагах пакаронай Ангары або ў кар'ерах Сакалоўска-Сарбайскага камбіната, ці на зямлі гераічнай Кубы або ў пясках Асуана — ён панясе па свеце славу нашых харошых людзей, славу белазаўцаў, гонар белазаўцаў.

**М. ГІЛЕВІЧ.**
**Фота Ул. КРУКА.**

# СУСТРЭНУЦЦА ВЫХАВАНЦЫ КАНСЕРВАТОРЫІ

Беларуская дзяржаўная кансерваторыя за апошнія гады падрыхтавала нямала здольных дырыжораў-хармайстраў, якія цяпер паспяхова працуюць выкладчыкамі ў музычных вучылішчах рэспублікі, кіруюць прафесіянальнымі і самадзейнымі харамі. Выпускнік нашай кансерваторыі А. Чопчыц выкладае ў Гродзенскім музычна-педагагічным вучылішчы і разам з гэтым узначальвае гарадскі ансамбль песні і танца. Наш выхаванец А. Лукомскі загадвае дырыжорска-харавым аддзяленнем Гомельскага музычнага вучылішча і пастаянна дапамагае самадзейным калектывам удасканальваць сваё майстэрства. Пад яго кіраўніцтвам хор Улукаўскага сельскага клуба на рэспубліканскім аглядзе калгаснай самадзейнасці паказаў добрую вакальную культуру, і яму была прысвоена назва харавой капэлы.

У Віцебскім музычным вучылішчы пры актыўным удзеле выпускнікоў кансерваторыі Е. Палішчук і Т. Клачко былі арганізаваны хор настаўнікаў і гарадскі хор хлопчыкаў.

І так амаль у кожным абласным і раённым цэнтры Беларусі і нават за яе межамі можна сустрэць хармайстраў, якія скончылі ў свой час нашу кансерваторыю. Рэктарат і кафедра харавога дырыжыравання вырашылі склікаць усіх іх у Мінск і правесці з імі у другой палавіне лістапада своеасаблівую творчую сустрэчу-канферэнцыю. Многія маладыя хармайстры выступяць са сваімі калектывамі ў канцэртах перад грамадскасцю беларускай сталіцы, абмяняюцца вопытам работы з прафесіянальнымі артыстамі і спевакамі-аматарамі.

У дні сустрэчы-канферэнцыі дырыжораў-харавікоў з 23 па 26 лістапада ў кансерваторыі адкрыецца вялікая выстаўка, на якой будуць паказаны розныя фатаграфіі, афішы, праграмы канцэртаў, нотныя матэрыялы, магнітафонныя запісы і дзённікі работы мастацкіх калектываў. На гэтай жа выстаўцы ўдзельнікі сустрэчы пазнаёмяцца з кароткімі нарысамі аб выкладчыцкай, канцэртнай і грамадскай дзейнасці маладых спецыялістаў харавой справы — выхаванцаў Беларускай кансерваторыі.

**М. МАСЛАЎ,**
**старшы выкладчык дырыжорска-харавой кафедры Белдзяржкансерваторыі.**

# ЭСТАФЕТА КУЛЬТУРЫ

У Старобіне адбыўся фінал аднаго з маршрутаў раённай эстафеты культуры, прысвечанай XXII з'езду КПСС. Эстафету даставілі ў раённы Дом культуры салігорцы.

Лічбы і факты, якія прывёў у сваім рапарце старшыня Салігорскага гарпасялковага Савета М. Герасімовіч — красамоўнае сведчанне поспехаў працаўнікоў шахцёрскага калектыву нашай рэспублікі.

Тут пачалося будаўніцтва другога камбіната, у раёне вёскі Радкава. Да дня адкрыцця з'езда атрымана звыш плана дзесяць тысяч пяцьсот тон сільвініту.

Гарнякі перавыканалі гадавы план шахтапраходкі і працуюць у лік 1962 года.

Лепшай змене, якую ўзначальвае Эдуард Яновіч, прысвоена высокае імя XXII з'езда КПСС.

Вялікую ўвагу аддаюць салігорцы культуры і добраўпарадкаванню роднага горада. Тут на плошчы ў тры гектары пасаджаны Камсамольскі сад. Каля кожнага жылога дома разбіты клумбы, газоны. Толькі ў гэтым годзе пасаджана звыш васьмі тысяч дэкаратыўных дрэў і пятнаццаць тысяч кустарнікаў.

На прадпрыемствах створаны шматлікія агіткалектывы.

У горадзе беларускіх хімікаў адкрыты музычная школа, горна-механічны тэхнікум, шыроказкранны кінатэатр. Сёлета салігорцы атрымалі 12 860 квадратных метраў жылплошчы.

Пасля выступлення старобінцаў з вялікім канцэртам выступіў самадзейны шахцёрскі ансамбль.

**Г. КОЛАС,**
**наш спец. кар.**

Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА, (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва— 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00447.

Друкарня выдавецтва «Звязда».